

# Голас душы



Яднанне ў любові

№ 11 (195)
Субота, 18 сакавіка 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# УРАЧЫСТАСЦЬ СВЯТОГА ЮЗАФА

Святы Юзаф – Апякун Найсвяцейшай Марыі, Панны, і Сына Божага, Ісуса Хрыста, на зямлі. Паходзіў з дому і роду цара Давіда. Пакаленне Давіда страціла моц і багацце. Таму святы Юзаф вымушаны быў цяжка працаваць, зарабляючы на пражыццё.

Госпад Бог, выбіраючы беднага, але знатнага роду св. Юзафа для здзяйснення мудрых Божых планаў збаўлення, паказаў, як мала Ён звяртае ўвагі на багацце і высокія становішчы. Выбраў для Свайго Сына апекуна сярод цяжка працуючых людзей, цнатлівых, адданых Божай справе.

Святы Юзаф быў простым рамеснікам, вырабляў з драўніны неабходныя для штодзённага ўжытку рэчы. Але сэрца і душа яго былі напоўнены Ласкай Божай, бо Госпад Бог дзеліць ласкі і дары паводле Свайго ўпадабання.

Усявышні шчодра адарыў ласкамі гэтага простага рамесніка. І цяпер зразумела, чаму святы Юзаф быў выбраны апекуном Бога-Чалавека на зямлі. Святы Юзаф, як і Найсвяцейшая Марыя, Панна, ахвяравалі сваё жыццё Богу. Маці Божая да канца зямнога жыцця захоўвала дзявоцтва і чысціню сэрца.

Калі настаў час паводле закону Ізраіля выдаць замуж Дзеву Марыю, а Найсвяцейшая Панна жыла пры Ерусалімскай Святыні, куды прывялі Яе бацькі Ёахім і Ганна, трэба было знайсці такога юнака, які таксама быў бы адданы Богу.

Існуе легенда, што Архісвятар сабраў пэўную колькасць юнакоў, раздаў ім галінкі, на якіх было напісана імя кожнага. Пасля малітваў галінкі сабралі і паклалі ў святым месцы, абвясціўшы: чыя зацвіце, той будзе абраны за мужа Дзевы Марыі, выхаванкі Ерусалімскай Святыні.

Але цуд не адбыўся.

І таму Архісвятар сабраў другую групу юнакоў, у іх ліку быў і святы Юзаф, раздалі ім галінкі. І ў руках Юзафа на галінцы з'явілася цудоўная кветка лілея, над галавой святога Юзафа заззяў прамень, таму ён быў абраны мужам Марыі.



Марыя, выконваючы волю Божую, з пакорай прыняла за апекуна святога Юзафа. Госпад Бог паслаў Анёла аб'явіць Юзафу чысціню і беззаганнасць Панны Марыі і што Яна стане Маці Сына Божага. Затым Анёл загадаў Юзафу пасля нараджэння Ісуса Хрыста адысці з Марыяй і Дзіцяткам у Егіпет. Якое паслушэнства! Юзаф выконвае Божы загад.

Якія ж былі перажыванні, калі аднойчы 12-ці гадовы Ісус застаўся ў Ерусалімскай Святыні, а Марыя з Юзафам Яго шукалі. Калі Яго адшукалі, якой жа вялікаю была іх радасць.

Сваё жыццё святы Юзаф закончыў прыкладна ў 75-гадовым узросце. Памёр на руках Хрыста ў прысутнасці Марыі.

Ёсць некаторыя звесткі аб тым, што святы Юзаф доўга пакутаваў не столькі ад цялеснай хваробы, колькі гарэў ад шчырай любові да Бога, Сына Божага, Якога песціў сваімі рукамі, гэтымі ж рукамі здабываў штодзённы хлеб, якім карміў Ісуса.

Найбольшае шчасце для кожнага з нас – пражыць жыццё так, каб у хвіліну смерці сам Ісус і Марыя былі побач, гэтак, як у час смерці святога Юзафа.

**Святы Юзаф з'яўляецца апекуном добрай смерці.**

Святы Айцец Пій IX у 1871 годзе абвясціў святога Юзафа галоўным апекуном усяго Каталіцкага Касцёла. Калі Айцец Нябесны даручыў апеку Свайго Адзінароднага Сына святому Юзафу, тады яму, святому Юзафу, можна з упэўненасцю даручыць і ўвесь Каталіцкі Касцёл.

*Кс. Уладыслаў Завальнюк*

# ГОСТЫЯ – ГЭТА АХВЯРА

***(Прамова Біскупа Антонія Дзям`янкі на заканчэнне 40-гадзіннага набажэнства)***

**5 сакавіка ў касцёле святых Сымона і Алены заканчвалася 40-гадзіннае набажэнства адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, якое пажадаў праводзіць штогод на пачатку Вялікага Посту фундатар Чырвонага касцёла Эдвард Вайніловіч.** З нагоды гэтай адпустовай урачыстасці святочную Імшу цэлебраваў дапаможны біскуп Антоні Дзям'янка. На пачатку свайго казання біскуп нагадаў, што на заканчэнне 40-гадзіннага набажэнства тыя, хто прыняў удзел у ім, будуць мець поўны адпуст. Таксама нагадаў умовы адпусту. Вось яны: малітвы «Ойча наш...», «Вітай, Марыя...», «Веру ў Бога, Айца...» у інтэнцыі Святога Айца, а таксама адсутнасць прывязанасці да заганаў цяжкага граху.



Біскуп Антоні казаў: «Паважаныя парафіяне, браты і сёстры. На пачатку Вялікага Посту ў вашай парафіі адбываецца гэта 40-гадзіннае набажэнства. Што гэта такое, што тут надзвычайнага? **А надзвычайнае – сам Найсвяцейшы Сакрамант.** Пан Езус, калі ўбачны спосаб адыходзіў з гэтага свету, сказаў: «Я не пакідаю вас сіротамі». А калі набліжалася хвіліна разлукі , Ён запрасіў сваіх вучняў на апошнюю развітальную вячэру і пакінуў ім найдаражэйшы скарб: браў хлеб, ламаў яго, благаславіў і гаварыў: «Бярыце і ешце, гэта Цела Маё...», а потым браў віно, благаславіў і гаварыў: «Бярыце і піце, Гэта Кроў Мая...» і дадаў: «Гэта чыніце на Маю памяць». Ён застаўся ў Найсвяцейшым Сакраманце.

Цяжка нам гэта зразумець. Бо, калі мы бачым гэту белую Гостыю, нашы органы дотыку гавораць, што там хлеб, але вера нашая гаворыць, што там не хлеб... Што ў гэтай святой Гостыі, пасля таго, як адбудзецца кансэкрацыя, і святар прамовіць над ёй словы Хрыста «Гэта Цела Маё ...», там ужо жывы Езус. І гэта адбываецца і будзе адбывацца на працягу ўсяго існавання касцёла"

Біскуп Антоні распавёў аб такім выпадку: *«У аднаго святара ў сярэднявеччы падчас Святой Імшы закралася сумненне, ці сапраўды на гэтыя словы святара прыходзіць сам Пан Езус. І адбылася кансэкрацыя, і тады кроў стала ліцца па руках святара і капаць на алтар. Ён зразумеў, што саграшыў недаверам, не паверыўшы словам Хрыста. Тады ён звярнуўся да Папы Урбана IV, упаў перад ім на калені і расказаў пра здарэнне. Папа дараваў яму грэх і загадаў перанесці гэты карпарал з касцёла святой Катрыны з г. Больцано ў Орветто. І ў нашыя часы, праз столькі стагоддзяў на карпарале бачны кроплі крыві. Пілігрымы, якія наведваюць гэтую прыгожую катэдру ў Паўночнай Італіі і па сённяшні дзень могуць бачыць на захаваным карпарале кроплі крыві.*

Паважаныя, Езус такім чынам хоча паказаць чалавецтву, асабліва тым, хто не верыць, што Ён сапраўды знаходзіцца пад постацямі хлеба і віна ў Эўхарыстыі. І сёння можна назіраць, як па-рознаму людзі, нават католікі, адносяцца да Эўхарыстычнага Езуса. У медыцыне апісаная хвароба, якая называецца анарэксія. Людзі, якія маюць такую хваробу, не могуць спажываць стравы, ім страшна ўжываць ежу, ім здаецца, што калі яны трошкі з'ядуць, у іх з'явіцца шмат калорый, нават калі вып'юць крышачку вады, павысіцца іх вага. А калі з'ядуць якісьці фрукт, напрыклад, яблык, то трэба прайсці некалькі кіламетраў альбо выканаць пэўныя фізічныя заняткі. Сваё жыццё яны бачаць толькі праз прызму сваёй фігуры – чым больш яны будуць худыя, тым больш яны будуць мець вартасць для супольнасці. Гэта не так. Спажыванне патравы ў меру – у гэтым няма нічога кепскага... **Але ёсць такія выпадкі, што чалавек у духоўным жыцці перажывае такую анарэксію, з перасцярогай ставіцца да Найсвяцейшага Сакраманту, не хоча наблізіцца да Езуса Хрыста. Гэта можа быць адзнакай хваробы душы...**

Святая Фаўстына Кавальская ў сваім дзённіку запісала: «Усё, што ўва мне добрае – гэта справа Святой Камуніі. За ўсё Ей удзячна. Калі б не Святая Камунія, то я вельмі нізка ўпала б. З Табэрнакулюма я чэрпаю сілы, моц, адвагу і святло». Вось, паважаныя, словы святой.

Мы, разважаючы Святое Пісанне, бачым, што не аднойчы,

даўшы надзвычайны пасілак, Бог чалавеку дае таксама сілы і надалей. У жыцці прарока Іллі, калі яго пераследвала бязбожная каралева Ізабэль, ён хаваўся ў пустыні, і калі, здавалася, сілы яго скончыліся, Бог спаслаў яму спажыву. Скарастаўшы з гэтай спажывы, ён змог вытрываць яшчэ 40 дзён і начэй, змог перанесці жыццёвую небяспеку. Гэта значыць, што чалавек можа вытрымаць усё, пераадолець многія духоўныя цяжкасці, калі будзе аб'яднаны з Богам.

**Паважаныя ў Езусе Хрысце!** Калі Езус жыў на зямлі і прапаведваў Навіну, чыніў цуды, да Яго людзі дакраналіся, з Ім маглі паразмаўляць, паспрачацца, маглі даведацца пра многія рэчы. Але, калі бачным спосабам Ён адышоў з гэтага свету, то даў для чалавецтва святую Эўхарыстыю. І святой Фаўстыне Кавальскай Ён, калі аб'явіўся, сказаў: «Я – у сапраўднасці жывы». У часе размовы з Фаўстынай гаварыў: «Ты бачыш Мяне сваімі вачыма, і хто мяне бачыць – бачаць Мяне ў Гостыі жывога».

Ёсць такое апавяданне ў яўрэйскім Мідрашы, сэнс якога зводзіцца да таго, што чалавек, стоячы над развалінамі Ерузалема, горка плакаў гаворачы: «Божа, дзе ж ты? Ты, напэўна, дзесьці далёка, Ты не бачыш боль нашага народа, Ты не бачаш, які смутак і жаль раздзірае нашыя сэрцы. Мы не маем горада – мы знішчаны, мы не маем святыні...» І ў гэты час заснуў. А ў сне ўбачыў Бога, убачыў таксама анёлаў, якія пахіліліся над пакутамі яўрэяў. І тады ён хутка ўстаў і ўсклікнуў: «Ерузалем, май надзею!" У яго сэрцы пасялілася надзея, таму што ён зразумеў, што Бог ведае аб пакутах чалавека, але да пэўнага часу дапускае і такія страты, каб вера чалавека ўзрастала.

Святая Фаўстына Кавальская мела такое бачанне: Езус паўстаў перад людзьмі, якія маляцца. З Яго сэрца выходзілі промні: белыя і чырвоныя. Адныя промні пранікалі глыбока ў веручых людзей, а другія праходзілі быццам і блізка, але не краналі гэтых людзей. І тады яна запыталася: «А чаму так атрымліваецца: чаму не ўсе пром-ні аднолькава пранікаюць у гэтых людзей?» Езус адказаў ёй: «У многім гэта залежыць ад веры тых людзей. Калі чалавек мае глыбокую веру, то промні праходзяць скрозь яго – і ён пераменяецца, але калі мае слабую веру, то пройдуць міма яго».

Гэта аб'яўленне, паважаныя, гаворыць нам аб тым, што трэба глыбока і вельмі шчыра маліцца, каб вера і еднасць з Езусам Хрыстом была моцная. Гэта можна параўнаць з сонцам Сонца свеціць над усімі людзь-мі, але людзі могуць выкарыстоўваць яго промні ў пэўнай меры. Калі хтосьці знаходзіцца на падворку, яго цела адразу пакрываецца загарам, але хтось- ці, можа, і не жадае выйсці на падворак, а знаходзіцца толькі ў пакоі, тады сонца не мае магчымасці пранікнуць да гэтага чалавека, і таму загар у яго будзе меншы.

**Слова «Гостыя», навучаў Езус святую Фаўстыну Кавальскую, азначае «ахвяра».** Няхай Езус Эўхарыстычны, Якога вы адаравалі ў першыя дні Вялікага Посту, дапаможа вам вытрываць і застацца вернымі Хрысту Яму назаўсёды. Жадаю, каб вы ўсе тыя намеры адносна паглыблення сваёй духоўнасці на працягу гэтага святога перыяду выканалі. Няхай заўсёды Езус будзе ў вашым сэрцы, а кожны ваш чын няхай сведчыць аб любові да Эўхарыстычнага Хрыста. Жадаю вам моцнай веры на час Вялікага Посту, а таксама для ўсіх членаў вашай сям'і, для вашых дзяцей і ўну-каў. Няхай гэты святы час Вялі-кага Посту перамяняе кожнага. Удзеляю ўсім Божае блаславенне. І таксама кожны, хто выканаў тыя ўмовы, якія паставіў Касцёл, атрымоўвае поўны адпуст».

## НАВІНЫ

### ГЛАВА ЕГІПТУ СУСТРАЭЎСЯ З ПАПАМ

***13 сакавіка прэзідэнт Егіпта* Хосні Мубарак *сустрэўся з Бенедыктам XVI.***

Перад гэтым Мубарак здзейсніў свой візіт у Еўропу, падчас якога ён наведаў Італію, Германію і Аўстрыю. Аўдыенцыя з Папам пацверджаная ўрадам Егіпта.

Візіт Мубарака праходзіць на фоне лютых пратэстаў у мусульманскіх краінах супраць публікацыі ў еўрапейскіх выданнях карыкатур на прарока Мухамеда і перамогі руху ХАМАС на палестынскіх выбарах. Прэзідэнт адзначыў, што аўдыенцыя з Пантыфікам вельмі важная, бо



Мубарак перакананы, што Святы Айцец з'яўляецца ключавой постаццю ў справе прымірэння сусветных рэлігій. Раней прадстаўнік ураду дзяржавы падкрэсліваў, што Мубарак таксама плануе абгаварыць з Папам далягляду мірнага ўрэгулявання ў Іраку.

Гэта першая сустрэча Святога Айца Бенедыкта XVI з главой Егіпта. Ян Павел II сустракаўся з Мубаракам шэсць разоў.

*На Фота: прэзідэнт Егіпту Х. Мубарак*

### ПАПА ЗАКЛІКАЕ

***Пантыфік накіраваў сваё пасланне ўдзельнікам сустрэчы новых каталіцкіх супольнасцей і рухаў парафіян, спатканне якіх праходзіла ў сакавіку ў калумбійскай Багоце.***

Папа заклікаў гэтыя групы стала памятаць аб місіянерскім духу, мэтай якога з'яўляюцца імкненне людзей, якія нават не

## НАВІНЫ

з'яўляюцца выбранымі Хрыста. І Сустрэча царкоўных рухаў і новых суполак краін Лацінскай Амерыкі, якая працягвалася да 12 сакавіка, праходзіла пры падтрымцы Папскай рады па пытаннях парафіянаў. У пасланні, накіраваным кардыналам *Анджэла Садано* ад імя Святога Айца архібіскупу Станіславу *Рылко*, галаве вышэйзгаданай рады, Папа заклікаў удзельнікаў «па-братэрску падзяліцца сваім духоўным дабрабытам і доследам, з тым, каб умацаваць хрысціянскае жыццё ў той частцы свету, на якую Царква ўскладае такія вялікія надзеі». Адзначыўшы тэму сустрэчы – «Апосталы і місіянеры сучаснасці», – Пантыфік адзначыў, што «падобна апосталам, рухі і абшчыны закліканыя быць сведкамі і місіянерамі Добрай Весткі, якую яны пачулі». «Вы павінны працягнуць руку дапамогі людзям, дапамагаючы ім усвядоміць Хрыста, асабліва тым людзям, якія Яго не ведаюць або жывуць павярхоўным хрысціянскім жыццём», – піша Папа. Ён таксама адзначыў важнасць аказання дапамогі тым, «хто патрабуе сталага ўмацавання сваёй веры і яе дакладнага ўсведамлення, што асабліва важна ў сучасным *секулярным* мысленні або рэлігійнай абыякавасці, якая характэрна для шматлікіх частак Лацінскай Амерыкі». «Менавіта таму місіянеры не перастаюць быць апосталамі, і ім варта перадаваць людзям роўна столькі ведаў, колькі яны самі атрымалі, без дадання чаго-небудзь ад сябе», – дадаў Бенедыкт XVI.

*Падрыхтавана Рэдакцыяй па матэрыялах Agnuz*

## ВАЧЫМА ДЗЯЦЕЙ

***Дарагі дружа! Вялікі пост працягваецца... Ужо мы пераджылі амаль палову падрыхтоўкі да светлага дня Уваскрашэння. Паразважай, калі ласка, сёння аб тым, якім павінен быць чалавек, мілы Богу.***

«... Езус сказаў ім: «Глядзіце, асцерагайцеся пажадлівасці, бо жыццё чалавека не залежыць ад багацця яго маёнтка» (*пар. Лк 12, 15).*

Паглядзі, дарагі дружа, гэтая маленькая дзяўчынка прыйшла ў лес. Зімою яна заўсёды карміла тут птушачак, таму цяпер яны ўжо ведаюць яе і не баяцца падлятаць да яе блізка-блізка. Некаторыя людзі трымаюць птушак дома ў клетцы. Ёсць птушкі, здольныя навучыцца размаўляць, калі ім часта паўтараюць адны і тыя ж словы. Іншых, праўда, цяжка зразумець, але некаторыя «гавораць» вельмі добра.

*Такую птушку я ўбачыла аднойчы ў доме аднаго чалавека, які вельмі любіў грошы.* Яго жонка была веруючай асобай і заўсёды ўдзельнічала ў св. Імшы. Сам жа ён быў вельмі скваппым і на вядзенне гаспадаркі даваў жонцы зусім мала грошай. Таму жанчына ніяк не магла ажыццявіць сваё запаветнае жаданне – ахвяраваць што-небудзь на патрэбы бедных людзей ў іншых краінах. Як я ўжо казала, гэты скваппы чалавек меў папугая, які ўмеў добра «размаўляць». А паколькі гэты чалавек зрэдку наведваў царкву, ён навучыў свайго папугая прамаўляць усялякія набожныя выразы. Напрыклад: «Алелюя! Слава Госпаду! Заўсёды за ўсё дзякуйце!» Гэтыя словы птушка выдатна магла вымаўляць.

Аднойчы муж з жонкай паехалі ў адпачынак. На гэты час яны аддалі свайго папугая замужняй дачцы. Дачка вельмі добра ведала бацьку і таму навучыла птушку яшчэ аднаму выразу. Праз некаторы



час, калі гаспадары вярнуліся дамоў, я прыйшла, каб адведаць іх і спытала, як адчувае сябе папугай.

– Ах, – уздыхнула веруючая гаспадыня, – не слухайце яго, калі ласка! Мне заўсёды так сорамна, калі ў хаце госці, а ён пачынае гаварыць. Ведаеш, што цяпер гаварыў папугай?

– Алелюя! Слава Богу! Тата купаецца ў грашах. Заўсёды за ўсё дзякуйце! Тата купаецца ў грашах. Алелюя, амэн!

Я пасмяялася над гэтым выпадкам, але падумала: «Калі мы занадта прывязаныя да грошай, то часам і птушкам прыходзіцца гаварыць нам праўду».

Так часта бывае ў жыцці. Некаторыя людзі так набожна моляцца, а ў практычным жыцці не знойдзеш і следу іх набожнасці. Таму Езус Хрыстус папярэджвае: « Глядзіце, асцерагайцеся пажадлівасці, бо жыццё чалавека не залежыць ад багацця яго маёнтка», хоць бы яно і было вельмі вялікім. У Бібліі напісана: «...бо корань усяго зла ёсць любоў да грошай».

Езус Хрыстус аддаў людзям усё, што меў. У Яго не было ні хаты, ні сада, ні золата або срэбра, але Ён усё ж дапамагаў усім бедным людзям. Ён вылечваў хворых і даваў хлеб патрабуючым.

**Таму, дарагі дружа, пастарайся заўсёды быць шчодрым, тады Бог блаславіць цябе і захавае ад усялякага зла.**

**Калі хочаш, дадай да Велікапосных пастаноў яшчэ адну:**

**«БЫЦЬ ШЧОДРЫМ».**

*Твая Надзейка*

*Паводле кнігі Юста М. Бона*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 19 САКАВІКА

## ЧЫТАННЕ КНІГІ ЗЫХОДУ

*(Зых 20, 1-17)*

У тыя дні:
Сказаў Бог усе гэтыя словы:
"Я - Госпад Бог твой, Які вывеў цябе з зямлі егіпецкай, з дому няволі.

Не май іншых багоў, апроч Мяне. Не рабі сабе ніякай выявы ідала і падабенства таго, што ўверсе на небе, што ўнізе на зямлі і што ў водах над зямлёю.Не пакланяйся ім і не ўшаноувай іх. Бо Я - Госпад Бог твой, Бог зайздросны, Які карае дзяцей за беззаконне бацькоў да трэцяга і чацвёртага пакалення тых, хто ненавідзіць Мяне. Але Я выяўляю міласэрнасць да тысяч пакаленняў тых, хто любіць Мяне і захоўвае запаведзі Мае.

Не ўжывай Імя Госпада Бога твайго дарэмна, бо Госпад не пакіне без пакарання таго, хто ўжывае Імя Ягонае дарэмна.

Памятай пра дзень шабату, каб свяціць яго. Шэсць дзён будзеш працаваць і рабіць усе працы свае, а сёмы дзень, шабат, для Госпада Бога твайго; не рабі ніякай працы ні ты, ні сын твой, ні дачка твая, ні твой нявольнік, ні твая нявольніца, ні жывёла твая, ні чужынец, які знаходзіцца ў брамах тваіх. Бо за шэсць дзён учыніў Госпад неба і зямлю, і мора, і ўсё, што ў іх, і на сёмы дзень адпачыў. Таму благаславіў Госпад дзень шабату і асвяціў яго.

Шануй бацьку свайго і маці сваю, каб доўга жыць на зямлі, якую Госпад Бог твой дасць табе. Не забівай. Не чужалож. Не крадзі. Не сведчы фальшыва супраць бліжняга свайго. Не пажадай дому бліжняга свайго; не пажадай ні жонкі яго, ні ягонага нявольніка, ні ягонай нявольніцы, ні вала ягонага, ні асла ягонага – нічога, што належыць яму.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 19 (18), 8. 9.10.11 Р.: Ян 6, 68с)*

***Рэфрэн: Госпадзе, Ты маеш словы жыцця вечнага***

Закон Госпада дасканалы, *
Умацоўвае душу,
сведчанне Госпада вернае, *
яно дае мудрасць простым.

***Рэфрэн.***

Загады Госпада справядлівыя *
і радуюць сэрца;
наказ Госпада ясны, *
прасвятляе вочы.

***Рэфрэн.***

Боязь Божая беззаганная *
і вечна трывае;
прысуды Госпада праўдзівыя *
і ўсе справядлівыя.

***Рэфрэн: Госпадзе, Ты маеш словы жыцця вечнага***

Больш каштоўныя, чым золата, *
чым мноства чыстага золата,
і саладзейшыя за мёд *
і сок сотавы.

***Рэфрэн.***

## ПАСЛАННЕ СВЯТОГА АПОСТАЛА ПАЎЛА ДА КАРЫНЦЯНАЎ

*(1 Кар 1, 22-25)*

Браты:

Юдэі патрабуюць знакаў, а грэкі шукаюць мудрасці. Мы ж абвяшчаем Хрыста ўкрыжаванага, Які для юдэяў - прычына ўпадку, для язычнікаў – глупства, а для тых, хто пакліканы, і юдэяў, і грэкаў - Ён Хрыстус, Божая моц і Божая мудрасць. Бо неразумнае ў Бога разумнейшае за людзей, а слабое ў Бога мацнейшае за людзей.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

***Хвала Табе, слова Божае!***

Так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага,
каб кожны, хто верыць у Яго, меў жыццё вечнае.

***Хвала Табе, слова Божае!***

## ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ ЯНА

*(Ян 2, 13-25)*

Набліжаўся час габрэйскай Пасхі і Езус падаўся ў Ерусалім. Ён убачыў, што ў святыні сядзелі за сталамі ліхвяры, а таксама тыя, якія гандлявалі валамі, баранамі і галубамі. Ён адразу зрабіў біч з вяровак, павыганяў усіх са святыні, таксама бараноў і валоў, парассыпаў ліхвярскія грошы і паперакульваў сталы. Гандлярам жа галубамі сказаў: "Забярыце гэта адсюль і з дому Майго Айца не рабіце гандлярні!" І прыгадалі Ягоныя вучні, што напісана: "Руплівасць пра дом Твой паглыне Мяне"

На гэта габрэі сказалі Яму: "Якім знакам дакажаш Ты нам, калі такія справы робіш?" Езус даў ім такі адказ: "Зруйнуйце гэтую святыню, і Я за тры дні нанава адбудую яе".

Габрэі сказалі Яму: "Сорак шэсць гадоў будавалася гэтая святыня, а Ты на працягу трох дзён адбудуеш яе?" Ён жа гаварыў пра святыню Цела Свайго. Калі Ён уваскрос, прыгадалі Ягоныя вучні, што Ён сказаў, і ўверавалі ў Пісанне і словы, якія гаварыў Езус.

Калі Ён быў у Ерусаліме ў час Пасхі, у святочны дзень, многія, хто бачыў цуды, якія Ён рабіў, уверавалі ў Імя Ягонае. Але Сам Езус не давяраўся ім, бо ведаў усіх і не меў патрэбы ў чыімсьці сведчанні пра чалавека. Бо Сам ведаў, што крыецца ў чалавеку.

***Лектар:*** Гэта слова Пана.
***Усе:*** Хвала Табе, Хрысце.

# КНИГА «КОД ДАВИНЧИ» – ЭТО ЦИНИЧНЫЙ ПАСКВИЛЬ НА ИИСУСА ХРИСТА И ХРИСТИАНСТВО

**Уважаемые прихожане костёла св. Симона и св. Елены и все верующие!**

На книжных полках магазинов г. Минска и Беларуси появилась книга американского журналиста Дэна Брауна, своим оформлением и содержанием отравляющая умы и души людей сатанинским ядом, ядом замедленного действия, так как не каждый сразу поймёт, насколько нелепа и ничтожна всякая чушь, оскверняющая Имя Бога-Человека. «Предложило» нам, беларусам, в полном смысле слова, этот «яд» – книгу, издательство МАТАДОР, Москва, 2006 г.

**Эта книга подлежит абсолютному запрету не только со стороны христианского вероучения, но и с точки зрения нравов, этики, культуры, добропорядочности и уважения чувств верующих христиан всех конфессий, всего христианского мира.**

Прекрасно понимаю позицию Русской Православной Церкви во главе с ее духовным Пастырем Святейшим Патриархом Алексием II. Православная Церковь никогда не разрешила бы печатание такого «произведения», такого в нем сатаниского осквернения и унижения Иисуса Христа, Господа нашего и Спасителя душ человеческих, осквернения чувств всех христиан мира, всех с верой в Бога усопших родителей и святых Великомучеников, которые за веру, за правду, за будущее поколений и мирного сосуществования всех народов мира, противостояли сатанинскому злу всей своей жизнью. Сейчас, в наше время, цензуры на издание, печатное слово и теле-радиопередачи почти не существует, и никто не боится ответственности за последствия причиненного людям зла, особенно молодежи. Затронуты и оскверонены, подвергаются испытанию чувства миллиардов верующих христиан как в моральном, так и в нравственно-воспитательном плане.

Одним словом, цель, смысл и содержание этой книги сводится к одному – Спаситель рода человеческого, а наш Господь Иисус Христос являлся каким-то самозванцем, вел непристойный образ жизни, имел плотские отношения с падшей девицей легкого поведения Марией Магдалеиной, женился на ней и имел от нее детей. Затем Мария Магдалина после распятия Иисуса Христа, ее мужа, убежала с детьми из Иерусалима в Галлию, и ее род продолжает свое существование по сегодняшний день в одном из французских областей бывшей Галлии.




В книге ведется сатанинский монолог о каком-то придуманном «коде Леонардо да Винчи». Вдумайтесь внимательно в заключительную фразу сатанинской лжи этой книги, которая оказывает свое адское разрушительное воздействие на умы молодых, слабых и не искушенных людей:

**«Ключ к величайшей тайне, над которой человечество билось веками, наконец – может быть найден».**

**Так где же открытие?!**

**Почему «может быть»?**

Что это за научно-историческое открытие с выражением **«может быть»**? Вопрос к ученым: разве сегодня в науке введен термин **«может быть»,** который равнозначен научно-обоснованному открытию и подтверждению?

Ничего не найдено, ничего нового не открыто, а Христианство облито грязью атеистом, актером, случайно выскочившим на международную арену, оплачиваемым, как на Западе, так и, увы, на Востоке, поднятыми с земли 30-ю серебренниками, которые Иуда бросил фарисеям в лицо перед своим повешением.

Американский журналист за 30 серебренников вдруг стал писателем и «ученым» мирового значения, опередив своим «открытием» всех современых историков и ученых, всего мира.

Дэн Браун, новоиспеченный «ученый и писатель», все **почти открыл,** все **почти изучил,** все **почти узнал.** Он, **может быть,** все найдет и, **может быть,** все всем докажет : так он рассуждает в своей книге. Сатанинской разнузданностью и аморальностью он оскверняет сокровенные чувства верующих христиан всего мира. Вот какой ученный появился перед мировым сообществом, который **все почти знает**. Его сатанинский гонорар – 30 серебренников, как и Иуде, за предательство Иисуса Христа Сына Божьего, за Пресвятую

Кровь. Тогда эта плата была только за Пресвятую Кровь Спасителя Иисуса Христа, Который сам принял крест страданий во имя спасения мира. Сейчас же – это плата тридцатью серебренниками дается не только за кровь человеческую, которая проливается в разрешенных абортах, бессмысленных войнах и бездушном терроризме, но и пагубно сказывается на душах человеческих, их спасении. Идет планомерное растление подростков и молодежи, а взрослых привлекают алкоголем, наркотиками и обещаниями сытой жизни.

Все ученые в мире блекнут перед никому доселе не известным журналистом, в один миг ставшим ученым, историком, публицистом с мировым именем только потому, что облил грязью христианство и Сына Божьего Иисуса Христа. Вот главный двигатель такой «псевдо- популярности». *Кто хочет, чтобы его родного отца очернили, утверждая, что он ведет или вел распутный образ жизни? Кто согласен на очернение своего имени, рода, государственного флага, Родины?* Здесь прослеживается след сатаны и его единомышленников, эта книга «состряпана» в сговоре с сатаной под заказ, как и все другие книги, которыми хвастается журналист.

И в первой его книжице, написанной совместно с женой, заглавие говорит само о себе и об ее авторах: *«187 мужчин, от которых следует держаться подальше: путеводитель для романтически фрустрированных женщин».*

**Я, настоятель прихода святых Симона и святой Елены в г. Минске, обращаюсь ко всем своим прихожанам с настоятельной просьбой, заключающейся в следующем: не читать эту книгу, не покупать ее, не занимать и не давать другим читать, не говорить о ней и даже не вспоминать.**

Не следует сжигать эту книгу, а только выбрасывать в деревенский туалет или на помойку. Эту книгу лучше возвратить в магазин, где купили, или отослать обратно в издательство МАТАДОР, г. Москва, книга – почтой, не требуя обратно денег, так как эти деньги – плата за страдания Христа и Пресвятую Кровь Иисуса.

Пусть эта книга пробудит их совесть, убережет их детей и род их! В своё время даже фарисеи, распиная Христа, не могли додуматься до такой клеветы.

Эта книга приоткрывает щель для проникновения сатаны в тот дом, куда ее приносят, и где она находится. И Божье проклятие настигнет тех людей, ту семью, тот род до третьего и четвертого поколения как гласит Библия: ***«... ибо Я Господь Бог твой, Бог ревнитель, наказывающий детей за вину отцов до третьего и четвертого рода, ненавидящих Меня, и творящий милость до тысячи родов любящих Меня и соблюдающим заповеди Мои»*** *Исход 20, 5-6.*

*Продолжение следует*
*Ксёндз Владислав Завальнюк*

## РАЗВАЖАННІ НА ВЯ...

# NIE CHODZI O TO, BY ZŁAPAĆ ZAJĄCZKA

***Tegoroczne wielkopostne rekolekcje poświęcamy siedmiu grzechom głównym: pysze, chciwości, nieczystości, zazdrości, nieumiarkowaniu, gniewowi i lenistwu. W tradycji religijnej zostały one uznane za „główne», gdyż są źródłem wielu innych grzechów.***

TYGODNIK POWSZECHNY:

– Nie bez powodu zwróciliśmy się do Siostry z prośbą o rozmowę na temat gniewu.

S.MAŁGORZATA CHMIELEWSKA: «Bo jestem gniewliwa?»

*– A czy można pomagać najbiedniejszym bez gniewu?*

**– Gniew może być dobry i może być zły.** Przede wszystkim należy odróżnić gniew od złości. Wprawdzie nie istnieje grzech główny zwany złością, niemniej nie sposób dopatrzyć się w niej jakiejkolwiek emocji pozytywnej. Co innego w gniewie, który bywa uczuciem pozytywnym. Gdy widzę ludzką krzywdę, budzi się we mnie gniew i twierdzę, że słuszny. Dlaczego? Bo nie wiedzie do unicestwienia sprawcy zła, lecz chce go odmienić i – co najważniejsze – pragnie pomóc jego ofierze. Gdybym nie miała w sobie gniewu na widok ofiar wojny w Darfurze, byłabym obojętna na ludzką krzywdę i zgadzałabym się na śmierć ludzi niewinnych. **Gniew budzi więc współczucie i solidarność z cierpiącymi i skrzywdzonymi.** Złość jest zaś głupia, ślepa, nierozumna. Pozytywną cechą gniewu – pieśni kościelne nazywają go Bożym – jest to, że rodzi się z niezgody na zło i wywołuje ból. Myślę, że Bóg cierpi, widząc nasze grzeszne uczynki. Cierpi jak matka, która dostrzega, że jej dziecko zbacza na manowce. Co znaczy, gdy matka mówi do dziecka: gniewam się na ciebie? Jeśli dziecko skłamało, gniew jest sygnałem, że jej miłość nie godzi się, by dziecko poniżało się do kłamstwa. Gniew macierzyński staje się więc wyrazem miłości. Ale zdarza się także gniew zły, który prowadzi do nienawiści, agresji, żądzy zemsty. Zły gniew nas zaślepia, wtedy nie wahamy się niszczyć człowieka. Chrystus wskazał nam inny wzór traktowania bliźniego. Wygnał wprawdzie przekupniów ze świątyni, trzymając w ręku bicz i przewracając stoiska, ale Jego gniew był kontrolowany i proporcjonalny do zła, jakie się tam działo. Chciał, by świątynia znów stała się przybytkiem prawdziwej czci oddawanej Bogu. Co ważne: Jezus nie poprzewracał stoisk handlarzy gołębi, ale kazał im tylko wynieść się ze świątyni, bo handlarze gołębi byli ludźmi biednymi. **Chrystus dokonał** – rzekłabym – **świadomego pokazu, czym jest gniew sprawiedliwy. Jego głos nie brzmiał zapewne słodko, ale nikogo nie przeklął, nikomu nie urągał, nikogo nie potępił, nie spalił żywcem.**

*Tygodnik Powszechny*
*Прац?? будзі*

